Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 27 Субота 20-га лістапада, 1926 г. м Вільня Год I

# …АРУСКАЕ СЛОВА

Выходзіць … Цана нумару 20 грош.



**Нацыянальнае адраджэньне.—Тэрыторыяльная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе уласнасьці.—Шырокі дэмократызм.—Барацьба з комунізмам.—Нацыянальная царква.—Краевая згода.—Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.**

Падпісная цана на 1 месяц 1 зл.
„ „ „ 3 „ 2 зл. 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno ul. Fabryczna 39.
Рэдакцыя адчынена ад 12—2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам—20 гр.
„ сярод тэксту —25 гр.
„ на апош. стар.—20 гр.
за радок нонпарэля.

## Трэбуем рэформау!

Грамада расьце. Усё больш ясна зарысоўваюцца яе рэвалюцыйныя контуры.

Ад мэтадаў пагрозаў перайшла да чынаў. Зарэзаны Івашкевіч, застрэляны з за вугла Іголка і Скарына. Забойца Івашкевіча ўцёк проста да бальшавікоў, забойцаў Іголкі і Скарыны зусім ня выявілі. Грозіць тэррорам усім тым, хто ёй перашкаджае, хто стаіць на яе шляху. Цэлы рад нашых супрацоўнікаў, якіх ані бальшавіцкія даляры Грамады, ані пагрозы яе агэнтаў ня здужалі зьбіць з іх чыста нацыянальнага становішча—атрымліваюць зусім ня двузначныя папярэджаньні. У вясковую гарачую моладзь уліта атрута ненавісьці і дадзена гэтай ненавісьці рэальная форма. У бочку пораху ўкінута запалка.

Па нядаўна спакойным беларускім вёскам і мястэчкам адбываюцца зьезды, мітынгі, маніфэстацыі, на якіх безадказныя агітатары наэлектрызовываюць да немагчымасьці сялянскую масу. Хто памятае пачатак расейскай рэвалюцыі, той разумее, што робіцца на нашых беларускіх землях.

Ня бачаць, ня чуюць і не разумеюць гэтага толькі палякі самі. І здаецца робяць як бы наўмысьля ўсё, каб прысьпешыць няшчасьце. Так, мы добра ведаем, што бальшавіцкая рэвалюцыя, на якую пхае Грамада беларускае сялянства, будзе вялікім няшчасьцем перад усім для беларускага адраджэнчага руху. Але аднача́сна гэта будзе страшэнны ўдар па Польшчы. Аднак жа перасьцярагаючы голас ня толькі нас, але *усіх* беларускіх групаў, ёсьць ужо ня голасам крычашчага, а голасам ахрыпшага ў пустыні ад крыку да свайго абязумеўшага народу і да дэмократыі польскай, якая дапусьціла да гэтага бязумья. Народ охопляны гіпнозам, ён не разумее, што робіць. Шукаючы ратунку ён кідаецца ў вагонь. Але што робіць польская дэмократыя? Што робіць польскі дэмократычны ўрад, які пасыўна пхае сялянства ў Грамаду, а значыць на рэвалюцыю? Гдзе абецаныя рэформы? Ці-ж ня ясна Ураду, што далей зацягваць з імі ня можна!

Мы заўсёды, нават у часы панаваньня эндэкаў, глыбока верылі, што прыдзе момант, калі польская дэмократыя выканае свой абавязак у адносінах да беларускага народу. Мы ведаем, што гэтыя рэформы прыдуць, што *яны ня могуць ня прыйсьці і* зусім ня той дарогай, якую паказвае Грамада. Але ўжо пара, даўно пара каб яны шлі. Бо рэформы прынясуць толькі тагды карысьці для народу і для Дзяржавы, калі яны *ў часе і дабравольна даюцца* Урадам народу. І могуць зьявіцца маслом у вагонь, калі яны *вырываюцца* рэвалюцыйнай масай. Тагды ніякія рэформы могуць ўжо не здаволіць народ, а толькі ўмацуюць групы, якія канцовай мэтай выразна ставяць утварэньне свайго бальшавіцкага Работніцка Сялянскага Ураду!.. Ня можна траціць ані хвілі, рэформы павінны зараз жа быць дадзены.

## Палітычны агляд.

Найбольшым здарэньнем у сусьветнай палітыцы ў апошні час, пасьля ўвахода Нямеччыны ў Лігу Народаў і панэўрапэйскага кангрэсу ў Вене, зьяўляецца бязумоўна маніфэст прадстаўнікоў фінансістаў 16 дзяржаваў сьвета, які быў абвешчаны ў прэсе ў папярэднім месяцы. Пад гэтым маніфэстам, звароча‑ным да сусьветнай апініі, стаіць 177 подпісаў важнейшых прадстаўнікоў прамысловасьці, гандлю і банкаў Амэрыкі, Англіі, Нямеччыны, Францыі, Італіі, Польшчы, Галяндыі і г. д. Але галоўную ролю ў гэтым маніфэсьце гулялі прадстаўнікі толькі амэрыканскага, ангельскага і нямецкага фінансавага сьвета, у той час як рэшта асобаў падпісалася пад ім толькі дзеля салідарнасьці. Маніфэст зьяўляецца новай спробай з боку ангельска-амэрыканска - нямецкіх фінансістаў апанаваць Эўропу.

Ён указвае на тое; што Эўропа церпіць эканамічна-фінансавы крызіс у выніку апошняй вайны. Затым, што ў ёй стварылася шмат неперяможных пагранічных муроў. Дзеля гэтага, каб лягчэй перамагчы эўрапэйскі крызіс, грубыя рыбы англа-саксонскага і нямецкага сьвета прапануюць знішчыць гэтыя перашкоды на шляху да агульнага аб'яднаньня. Ня трудна заўважыць у гэтай мэце падобнасьць з мэтай папэўропэйскага кангрэсу, склікана́га з ініцыятывы немцаў. Адсюль ясна, да чаго яна імкнецца. Нямеччына пры дапамозе і ўхаўрусе з Англіяй і Злучанымі Штатамі Паўночнай Амэрыкі імкнецца к эканамічнаму апанаваньню эурапэйскага рынку і у гэтым кірунку робіцца націск на тыя дзяржавы, якія, лічачы сябе слабей у эканамічным адношаньні, бароняцца проці гэтай экспансіі нямецка-амэрыканскага капіталу шляхам таможаных муроў. Як раз так зразумелі гэты маніфэст польскія гаспадарча фінансавыя сфэры, выступіўшыя з адкрытым пратэстам проці захватных мэтаў новага сьвятовага фінансава-гаспадарчага трыумвірата.

З другіх падзеяў апошніх дзён на першым месцы трэба паставіць скандальную гісторыю з італьянскім фашызмам. Нядаўна ў Болёньі быў зроблены няўдалы замах на італьянскага дыктатара Муссаліні. Гэта ўжо чацьвёрты замах, з якіх Муссаліні выйшаў зусім цэлым. На месцы выпадку быў схоплены нейкі малады чалавек на імяні быццам Замбоні і тут — жа быў скатаваны да сьмерці азьвярэўшым натоўпам прысутных пры праезьдзе дыктатара. Потым зьявіліся вэрсыі, што запраўдны замаховец уцёк, а забіты быў зусім нявіноўны, бо, як выясьніла дазнаньне, бацька забітага Замбоні, як і самы нябожчык былі сымпатыкамі фашызму і дзеля гэтага ня можна было дапусьціць, каб замах быў зроблены 15 гадовым хлопцам, пры катором ня знойдзена было нават ніякага аружжа. Але гэта не перашкодзіла Муссаліні і яго шайцы „чорных кашуль" пачаць новы тэррор проці апазыцыі. Пачаліся ў цэлым краі масавыя арышты, дэмонстрацыі фашыстаў, разгромы рэдакцыяў апазыцыйных часопісяў, будынкаў нефашыстаўскіх арганізацыяў, выступленьні проці прадстаўнікоў чужых дзяржаваў, асабліва Францыі, якая быццам вінавата ў тым, што на яе тэр торыі арганізуюцца італьянскімі эмігрантамі замахі на Муссаліні. Але як на няшчасьце на гэты раз фашысты выдалі самі сябе з галавою. У Францыі дзякуючы спрыту і чуйнасьці паліцыі ўдалося раскрыць фашыстаўскую правакацыю, нарабіўшую шуму на цэлы сьвет. Уся справа прадстаўляецца гэтак. У пачатку бягучага месяца на французска-гішпанскай граніцы былі затрыманы французскай паліцыяй гішпанскія эміграпты, якія з аружжам і бомбамі ў ліку некалькіх сот пад кіраўніцтвам палкоўніка Мацін маніліся перайсьці граніцу і паднясь паўстаньне ў Гішпанскай вобласьці Каталёніі. У сувязі з гэтымі арыштамі быў установлены кантакт Мацін з італьянскім эмігрантам Гарыбальдзі, унукам вядомага барацьбіта за вольнасьць і аб'яднаньне Італіі з 70 гадоў, гэн. Гарыбальдзі. І далей французская паліцыя па нітцы дайшла і да самага клубка. Пасьля арышта Гарыбальдзі выясьнілася, што ён выдаваўшы сябе за ворага фашызму сапраўды быў фашыстаўскім агэнтам і звычайным правакатарам. У гэты самы час у Ніццы, недалёка ад італьянскай граніцы, быў заарыштаваны нейкі італьянскі купец, прыбыўшы ў Францыю з фальшывым пашпартам і вялікай сумай грошаў для Гарыбальдзі. Але на дапросе выясьнілася, што гэта быў галоўны камандант італьянскай фашыстаўскай паліцыі Раполла, які прыехаў у Францыю з заданьнем арганізаваць пераход каталенскіх паўстанцаў церааз гішпанскую граніцу, а замах на Муссаліні, каб потым можна было вінаваціць Францыю ў тым, што яна пазваляе на сваей тэрыторыі арганізаваць паўстаньня і замахі на Муссаліні. Сувязью як з каталёнскімі гэтак сама і італьянскімі эмігрантамі служыў Гарыбальдзі, які мусіў справакаваць каталёнскае паўстаньне і замах на Муссаліні. Замах на Муссаліні, як ведама быў зроблены, але паўстаньне ў Каталёніі ня ўдалося. І як раз у той момант, калі фашыстаўская прэса па загаду зьверху пачала кампанію проці Францыі пасьля замаху, а італьянскі ўрад выслаў ноту Францыі, арышты Гарыбальдзі і Раполлы вывялі фашыстаўскіх правакатароў на чыстую ваду. Пасьля гэтага ўжо французскі урад выслаў ноту Муссаліні, патрабуючы выясьненьня ўсяго гэтага. Праўда Муссаліні адразу стаў мягкім, загадаў свайму паслу ў Парыжы запярэчыць такім закідам Францыі і выразіць жаль з поваду абразы і біцьця французскіх грамадзян у Італіі, але гэта не задаволіла французскі ўрад. Французская прэса трэбуе ад свайго ўраду стойкасьці і навет зварочвае ўвагу Лігі Народаў на тую небясьпеку, якую прадстаўляе эўрапэйскаму міру ваяўнічы італьянскі фашызм. Разыйшліся нават пагалоскі, што на французска-італьянскай граніцы зроблены вайсковыя прыгатаваньні, як з таго, гэтак і з другога боку. Але гэта здэмаскаваньне фашыстаўскіх запраўдных мэтадаў зусім не навучыла Муссаліні і акружаючых яго чорных кашуль, якія далей пры помачы тэррора бязлітасна распраўляюцца з апазыцыяй. А да апазыцыі залічаюцца ўсе, хто не фашыст. 142 нефашыстаў паслоў палаты дэпутатаў пазбаўлены пасольскіх мандатаў. Установлена кара сьмерці за палітычныя праступкі. Зачынены ўсе не фашыстаўскія палітычныя арганізацыі, установлены суровыя рэпрэсіі проці прэсы, абмежаваны конституцыйныя правы грамадзян і г. д.

Амаль што ні адначасна адбыліся выбары ў Злучаных Штатах Амэрыкі і ў Англіі. У Амэрыцы адбыліся выбары ў кангрэс, ці палату дэпутатаў і частковыя выбары, бо адну трэць толькі, у сэнат, які прадстаўляе вышэйшую палату. Такія выбары адбываюцца цераз кожныя 2 гады. Дасюль большасьць выла як у кангрэсе, гэ-

# Далоу маску!

Як паслы Грамады асабіста, так асабліва іх орган — рожныя „Справы" — ўсьцяж выстаўляюць паслоў Грамады адзінымі беларускімі патрыётамі і змагальнікамі за беларускае адраджэньне. Але тое, што лоўка можна скрываць у газэтах, пры пэўным спрыце спэцоў, тое значна цяжэй рабіць з прастадушнай сялянскай масай. Яна адкрыта робіць тое, аб чым яе вучаць яе сучасныя правадыры.

На тым тыдню ў м. Карэлічах Навградзкага павету адбылася, арганізованая Грамадою, маніфэстацыя сялян, якія йшлі з чырвонымі сьцягамі з гэткімі надпісамі: „Далоў фашыстаўскі ўрад Пілсудскага". „Няхай жыве работніцка—сялянскі ўрад". „Няхай жыве кастрычнікавая рэвалюцыя" (расейская комуністычная!) „Амністыя палітычным вязьням". І ані воднага слова, ані воднага плаката аб *беларускіх нацыянальных* жаданьнях, аб сялянскіх патрэбах. Дык ці не ясна, што момант нацыянальны, які яшчэ раней быў адсунуты Грамадою на запяткі перад момантам соцыяльна пралетарскім, сяньня і зусім выкінуты з *практычнай* дзейнасьці Грамады? Дык беларускія дзеячы Тарашкевіч і Рак-Міхайлоўскі (бо паны Валошын, Сабалеўскі і Мятла *ніякіх* заслуг ніколі перад беларускім адраджэньнем не мелі) праконана здрадзілі беларускаму адраджэнскаму руху, ці ўжо *ня могуць* кіраваць *сваей* жа Грамадай?

Характэрна, што Луцкевіч, які ўславіўся сваім шовінізмам і дзікімі нападкамі на ўсіх, хто ня мае яго дыплёму беларускасьці і адпаведнага стажу, —вызначыў у *сваім* цэнтры — старшынёю Віленскага камінтэту Грамады п. Акінчыца, які на Зьездзе Заходняй Беларусі *ня ўмеў нават гаварыць пабеларуску.*

Дык ці не пара ўжо з назвы „Беларуская С. Р. Грамада" адкінуць зусім слова „беларуская", як гэта зрабілі прыяцелі і ўгрымацелі Грамады— расейскія комуністы, выкінуўшы зусім слова Расея з сваей „рэспублікі"? Пара скінуць маску і не прафанаваць нацыянальнай ідэі!

## „ПРАВАДЫРЫ".

Хто ня ведае рэвалюцыйнага імпэту і запалу, з якім выступаюць „адважныя" нятыкальныя паслы Грамады на мітынгах і зьездах. Сколькі ўжо сялян сядзіць па турмах за рэвалюцыйнасьць .. паноў паслоў! Здавалася б што правадырам і выбранцам нараду належыць быць з народам заўсёды, а асабліва падчас якога народнага гора, альбо паважных падзеяў. І вось гэткія паважныя падзеі прыйшлі. Паўстаў канфлікт паміж Урадам Бартэля і Соймам. Усе чакалі разьвязаньня Сойму. Чакаў напружана гэтага ўвесь край, чакалі і беларускія выбаршчакі. А паслы „рэвалюцыйнай" Грамады „адважныя абаронцы", ў поўным сваім складзе: Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, знамянітая Мятла, Валошын і Сабалеўскі сядзелі за граніцай у Гданьску, гдзе роўным чынам чакалі... ці вяртацца да сваей Грамады, калі Сойм ня будзе распушчаны, ці ехаць туды куды надовячы выехаў Аляхновіч, калі-б Сойм быў бы распушчаны і *ім* (а ня толькі сялянам!) грaзіў бы арышт, бо амаль не за кожным з іх маюцца справы, за якія іх зараз жа арыштавалі б, як толькі яны перасталі бы быць пасламі. А мітынг, які быў на гэты дзень вызначаны на Наваградчыне пасламі Грамады ня мог адбыцца, бо „абаронцы" былі ў Гданьску. „Бел. Справа" на адозву Рады ўжо зарэагавала пішучы, што Рада напісала нібыта брахню на паслоў. Дык катэгарычна заяўляю, што орган грамадаўскіх паслоў лжэ, а моральную адказнасьць за гэтую ілжу нясуць перадусім п. п. паслы.

А каб даць магчымасьць панам паслам за гэтыя мае словы — (калі яны ня правільныя!) пацягнуць мяне да судовай адказнасьці, я падпісываю і яшчэ раз катэгарычна сцьвярджаю, што *п.п. паслы Грамады ў момант Соймавага крызіса да Гданьску ганебна ўцякалі.*

*А. Паўлюкевіч.*

# Жыцьце провінцыі.

## Навaградак.

На гэтых днях прыежджаў да Наваградка правадыр Грамады пасол Тарашкевіч, які меў патаемную канфэрэнцыю з сваімі пралетарскімі грамадаўцамі Аб чым нараджаліся яны гэтак і няведама. Ці можа аб паўстаньні? *К. К.*

## Хто ім за гэта плаціць?

(*В. Мыслава, Міжэвіцкай гміны*).

Беззямельле, вялікія падаткі, дрэнныя паліцэйскія адносіны да нас улады, кепскае палажэньне беларускай вясковай інтэлігэнцыі, асабліва вучыцялёў — выкарысталі „цёмныя сілы з падпольля" К. П. З. Б. і павялі сярод нас, бедных сялян, сваю агітацыю.

Агітатары даюць нам цяпер па 12 дзес. зямлі і... рай, калі мы ўцягнемся да „гурткоў"!... Нашая дурная моладзь верыць і ідзе масай у гэтыя „гурткі" — старыя людзі адракаюцца! Пачалі блутацца па нашых вёсках „тыпы", якія вешаюць чырвоныя сьцягі, кідаюць сьмярдзючую комуністычную літэратуру, малююць сьценкі нашых хат клічам: „Няхай жыве Роза Л." „Няхай жыве Лібкнэхт". Яны даўно ў Нямеччыне падохлі—гэтыя Розы і Лібкнэхты і іншая пошкудзь, а тут у нас пішуць на сьценцы—няхай жыве Цікава хто плаціць грошы гэтым таварышам за іх „начную работу"? Ці не скарбнік падраённага камітэту К.П.З.Б. Шкада працы, таварышы! Хаця вам і ўдаецца часова абаламучываць маладых хлапцоў, але прыдзе і на вас часіна! Мы ня спынім вясьці барацьбу за школу, зямлю і за нацыянальныя правы, а вас з вашымі Розамі кіем пагонім вон. Памятайце гэта!

*Мыславец.*

(*В. Нарэшавічы, Сіняўскай гміны*).

Ня так даўно да нас прыехаў арганізатар з Асосаў Мядзьведзіцкай гміны, які залажыў у нас гурток „Грамады", абяцаўшы нам здабыць і зямлі і розных палёгкаў. Але ў хуткім часе вёска нашая зразумела, што гэта толькі адно ашуканства — і потым толькі набярэшся бяды, бо людзі мы бедныя і так жывем у горы і з працы рук. Дык „гурток" распаўся, бо з яго ўсе паўцякалі, а то паліцыянты ўжо і так пачалі хадзіць.

*Нарэшаўскі Дзядзька.*

# Тутэйшая хроніка.

**Нагрaда ордэнам ваяводы Рачкевіча.** У дзень урачыстасьці восьмых угодкаў асвабаджэньня Польшчы ад нямецкай акупацыі віленскі ваявода п. Рачкевіч атрымаў Камандорскі Крыж і Зьвязду „Polonia Restitata" II ст.

**Дзесятыя ўгодкі „Biełaruskaj Krynicy".** 24 кастрычніка адбылося сьвяткаваньне дзесятых угодкаў „Biełaruskaj Krynicy", якая зьяўляецца органам Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі.

„Krynica" пачала выходзіць у Петраградзе, потым пераняслася да Менску і нарэшце да Вільні.

К дню сьвяткаваньня рэдакцыяй „B. Krynicy" было атрымана шмат прывітальных дэпэшаў з усіх куткоў Зах. Беларусі а таксама і ад заграпічных беларусаў.

На сьвяткаваньні былі прысутныя апрача беларусаў, прадстаўнікі польскага і літоўскага грамадзянства.

Цікава адзначыць, што сьвяткаваньне дзесятых угодкаў толькі аднэй газэты, хаця і самай старай з беларускіх, як „Krynica", адбылося больш урачыста з прыняцьцем удзелу ў ім прадстаўнікоў самых шырокіх колаў беларускага грамадзянства, як мясцовага—так і заграмічнага. Прыпамінаем, што сьвяткаваньне 20 х угодкаў усей беларускай прэсы гэтак было спаскуджана спэцыфічным Белкомам і Грамадой, што ў урачыстасьці ня прынялі ўдзелу як найбольш радыкальныя беларускія групы, як Беларускія Хадэкі і Сялянскі Саюз, так і прадстаўнікі эміграцкіх заграпічных групаў. Яшчэ больш цікава, што на Грамадаўскім юбілею ня былі прысутнымі нават *арганізатары* і *супрацоўнікі* перших беларускіх газэтаў: „Нашай Долі" і „Нашай Нівы" *знаходзячыяся ў Вільні* — Ф. Умястоўскі (Дзядзька Пранук), Фр. Аляхновіч (Монвід), ды іншыя літэратары і публіцысты.

Але за тое былі сьвежа сьпечаныя грамадаўскія і маланачныя паперапэцкалі, комсамол і патэнтаваныя чырвоныя „палітыкі".

**Беларуская конфэрэнцыя ў Менску.** На 14 лістапада г. г. у Менску вызначана конфэрэнцыя, якую склікае менскі Інстытут Беларускай Культуры. Афіцыяльным повадам конфэрэнцыі ёсьць справа пытаньня аб беларускім правапісе і шрыфце. Аднак трэба думаць, што менскія бальшавікі пастараюцца гэтую конфэрэнцыю выкарыстаць у мэтах палітычных. Прыемна адзначыць, што, як мы — чулі, на конфэрэнцыю гэту, гдзе напэўна не абойдзецца без рэверансаў і паклонаў розным Чарвяковым, Адамовічам і іншым чырвоным прахадзімцам, нічога супольнага з рухам беларускім ня маючым—ня едуць выдатныя прадстаўнікі Хадэкаў і Сялянскага Саюзу.

**Барацьба за Клецкую Гімназію.** Беларуская Нацыянальная Рада і Т-ва „Прасьвета" зложылі мэмарыял уладам, гдзе, між іншым, пратэставалі процiў штучных вымаганьняў Кураторыума ў Берасьці. На днях старшыня Рады асабіста інтэрвэньяваў у гэтай справе ў Варшаве з памысным рэзультатам. Гэткім чынам пасьля вялікіх высілкаў нелегальна істнуючая Клецкая Гімназія мае нарэшце адтрымаць концэсію і прадаўжаць ужо спакойна сваю культурную працу.

## Пісьмо ў Рэдакцыю.

*Паважаны Пане Рэдактар!*

У N 26 „Беларускага Слова" была надрукована заметка аб пану Мамоньцы, гдзе між іншым гаварылася аб п.п. Міткевічу і Цяўлоўскім, як платных агэнтах Пяста і дэфэнзывы і аб тым, што п. Міткевіч знаходзіўся пад судом за ўгалоўную справу.

Гэтаму факту п. Міткевіч зразумела

сваіх перажываньняў і пачуцьцёў, а дзякуючы таму часовую нерашучасьць і разхістаннасьць, ўрэшце моцныя ўплывы расейскай паэзіі апошніх часоў, толькі дзеля таго, што Дубоўка мае беспасрэдную сутычнасьць з сьветам рэвалюцыі, жывучы ў яго нутры, гэныя ўплывы расейскіх рэвалюцыйных паэтаў і ўсяе тамашняе атмасфэры, ёсьць у яго шмат мацнейшыя, чымся ў, пражываючага ў Празе, Жылкі.

З вялікай доляй пэўнасьці, можна дапушчаць, што ў сваіх чарговых зборніках, Дубоўка духова скансалідаваўся, гэтак як Жылка ў апошнім сваім зборніку „*На ростані*", але спраўдзіць гэтага, пакульшто німа магчымасьці!

Зборнік „*Строма*", мае 30 старонак невялічкага фармату і падзелены на 3 аддзелы: *1)* „*На чужыне*", *2)* „*Лятуценьні*" *і 3)* „*Адраджэнцам*".

Прыгледзімся да паасобных вершаў зборніку.

У I-шым аддзеле „*На чужыне*", два першыя вершы даволі слабыя, асабліва першы: „*Ты дэкляруеш*", які адзначаецца адсутнасьцю разьмеру і рыфмы, за тое верш „*Ня трэба мне пяяць на Беларусі?*" (стр. 9) адзначаецца сьвяжынёй пачуцьцёў і сьпеўнасьцю:

„... У песьнях я на Беларусь малюся,
„Як моліцца на возеры трысьцё..."

кажа Дубоўка аб сваей любові да краю і крыху далей скардзіцца:

„Далёка я... Я кленчу на маленьні,
„Калі мне тут гудуць табой бары,
„Віхрыцца дух і родзіць лятуценьні,
„Як запяюць мне навет камары..."

Гэтак-жа цэнным зьяўляеца апошні верш гэтага аддзелу, пачынаючыся славамі: „*захапіла навальніцаю...*" (ст. 10), адметны вышуканым настроям, музыкальнасьцяй і ўмела падабраным, багатым слоўнікам.

На гэты асаблівы слоўнік Дубоўкі, зложаны часткаю са слоў істнуючых, ды рэдка ўжываных, а часткова з новатвораных паэтам, варта зьвярнуць спэцыяльную ўвагу, як на зьявішча цікавае і для беларускае літэратуры карыснае, чаго, на жаль нельга сказаць аб спробах іншых аўтараў.

У II-ім аддзеле зборніку п. н. „*Лятуценьня*", заслугоўвае на ўвагу першы верш п.н. „*Зданьне*" (стр. 13), паўстаўшы пад моцным уплывам любоўных вершаў рэвалюцыйных паэтаў; вось яго пачатак:

„Вечар .. П'яны вечар сваволі—траўня...
„Вецер косы ночы расплёў, дуроньнік...
„Салавей пяець над ракой, як слаўна!
„Сны сьніць сасоньнік..."

Тут-жа побач з гэным модэрністычным сучасным вершам, пісаным пад выразным уплывам Багдановіча, невялічкі цыкль клясычных трыолетаў п.н. „*Пацеркі*" (ст. 14—16).

Асабліва прыгожым, зьяўляецца 2-гі з іх, які тут дамо у цэласьці:

„Час брылянцісты, залацісты
„Імчыцца ў даль, як дзікі конь,
„А мы на ім –у бор квяцісты.
„Час брылянцісты залацісты,
„Настрой у сэрцы паліць чысты,
„У нашым поглядзе вагонь.
„Час брылянцісты, залацісты
„Імчыцца ў даль! як дзікі конь".

Пазасталыя вершы гэтага аддзелу адзначаюцца дэлікатнасьцяй настрою, сьпеўнасьцяй, а гэтак-жа высокім роўнем паэтыцкае тэхнікі: асабліва вершы: „*Не жальбую тых дзянькоў*"... (стр. 17) і „*Ноч наплакалі бярозы*"... (стр. 19).

А вось адрывак з апошняга вершу гэтага аддзелу які прыводзім, як ілюстрацыю таго спэцыяльнага слоўніка, якім карыстаецца Дубоўка ў сваіх паэмах:

„Ілжа, і склізота і прыкрая золь
„За скрыгатам ветру — навалай.
„У чмарнасьць убралася сьветная столь,
„Блакіт ад зямлі адарвала" і г. д.

У апошнім аддзеле „Адраджэнцам", трэба, з боку ідэйнага адзначыць ўступны верш „*Спагадае хто?*" (стр. 23) ў якім паэт заклікае да працы на роднай ніве беларускую моладзь:

„Маладое пакаленьне,
„Прачынайся, час прыйшоў.
„Залатое Адраджэньне
„Кліча ўсіх пад родны схоў".

Чарговы верш „*Мітусіцца лістота ..*"(стр. 24), акрамя сьпеўнасьці ізноў-жа цікавіць сваім арыгінальным слоўнікам:

„Мітусіцца лістота мяцеліцай —
„Мітульжынная, быццам дзьвіна
„Па аселіцы лёнам пасьцеліцца,
„Завіхрыцца квяціста яна..." і . д.

З іншых вершаў трэ тут адзначыць пасьмертныя ўспаміны, прысьвячаныя М. Лойцы (стр. 25) і Алесю Гаруну (стр. 26)

Канчаючы гэтым агляд „*Стромы*", можам сцьвердзіць пакуль што адно: на беларускім літэратурным небе ўзыйшла новая зорка!

Сьцісьлейшая-ж ацэнка будзе магчымай толькі пасьля азнаямленьня з двумя апошнімі зборнікамі песьняра.

*Язэп Сьветазар.*

# ГРАМАДЗЯНЕ!

16-га жнiўня г.г. Беларуская Нацыянальная Рада выдала сваю першую адозву да беларускага грамадзянства, у якой папераджала грамадзян перад небясьпекай, якая пагражала ўсім тым, хто далучыцца да пралетарска-комуністычнай Грамады.

Гэтыя адозвы былі разасланы па ўсіх беларускіх кутках і нават па гурткам Грамады, бо мы добра вадаем, што дзевяць дзесятых сяньняшніх грамадаўцаў толькі праз сваю несьвядомасьць трапілі да Грамады, уцягнутыя ашуканчымі абяцанкамі: зямлі, школы, палёгкаў у падатках і нават, работніцка—сялянскага ўраду! Дык ня толькі наогул усіх грамадзян, але і гэтых сучасных грамадаўцаў мы лічылі сваім абавязкам папярэдзіць. Зразумела, мы ня думалі праконываць і папераджаць правадыроў Грамады—п.п. паслоў, бо яны—вось добра разумеюць, што робяць, пхаючы сялянскія масы на рэвалюцыю, калі яны „незачэпныя„ (нетыкальныя) іх ніхто ня можа арыштаваць дык яны сьмела могуць рабіць рэвалюцыю. Гэтыя **„правадыры“** ў самы нябясьпечны мамэнт **напэўна ўцякуць**, як гэта яны ўжо гатаваліся зрабіць у першых лічбах кастрычніка, калі Сойм амаль ня быў распушчаны... Гэта была ў той час, калі двум міністрам Ураду Бартэля Соймам была выражана неаверра. Паўстаў канфлікт і ўсе чакалі роспуску дйму. **Гэтага чакалі і правадыры Грамады, сёдзя-Со... у Гданьску! (за граніцай).** Бо зразумела, што **чы** Сойм быў бы разьвязаны, дык тагды паслы якалі бы адразу звычайнымі грамадзянамі, а знастыць маглі бы гэтак жа трапіць да турмы, як чны сяньня „адважна“ пхаюць да яе іншых звычайных грамадзян.

Аднак жа з прыкрасьцю мы павінны сьцьвердзіць, што перасьцерагаючыя словы адозвы Рады ня ўсюды трапілі да пераконаньня. Гурткі Грамады ўсё расьлі і расьлі. Сяляне альбо запамяталі перасьцерагаючы голас сваей Нацыянальнай Рады, альбо няслухалі яго, а слухалі салодкіх абецанак Грамады. І вось, **многа скарэй, як мы самі нават думалі, нашыя перасьцярогі споўніліся!** Грамада стала фактычна пераходзіць да рэвалюцыйных мэтадаў: **пачала забіваць тых людзей**, якія ёй не падабаліся, альбо перашкаджалі ёй. Гэтак, у вёсцы Сьценькі, Дзісьненскага павету, быў хітрасьцяи заманены да хаты гуртка Грамады Нікадым Івашкевіч, якога зьвязаўшы зьбілі да няпрытомнасьці, а потым старшыня гуртка **Андрэй Юдзёнак перарэзаў яму горла.** Юдзёнак у тую-ж ноч быў перапраўлены праграніцу да бальшавікоў, а **шасьцёх сялян сябраў гуртка, забралі ў турму.** Потым у звязку з гэтым арыштавалі яшчэ некалькі сялян. На днях газэты падалі вестку, што ў Пружаншчыне ізноў забіты, але ўжо старшыня гуртка Сымон Скарына і сэкрэтар павятовага камітэту Грамады ў Пінску Павал Іголка—якія непагадзіліся з рэштай грамадаўцаў.

Вось якім шляхам ідзе Грамада... Кроў, забойствы, брат на брата, беларусы на беларуса... Вясковых **пад суд і можа пад расстрэл**, а павадыры ў поўнай бясьпечнасьці... у Гданьску! А агэнты Грамады, як Юдзёнак, правакуючы сялян, дык проста ўцякаюць да сваіх прыяцеляў і саюзьнікаў-бальшавікоў у Савецкую Беларусь. Але апрача гэтых забойстваў, што нясуць гора ў вёску, ідзе да яе і тое гора, аб якім папераджала грамадзянства Б.Н. Рада, у сваей першай адозве... Ужо **ўсюды, гдзе працуе Грамада пачаліся арышты па вёсках.** Арыштавана некалькі дзесяткаў ў Беласточчыне, некалькі чалавек у Слонімшчыне, некалькі ў Наваградчыне... Але гэта пакуль што... А самае галоўнае і прыкрае, што **адказнымі як за палітыку**, так і за самых паноў правадыроў **будуць бедныя звычайныя сяляне**, якія ня хочуць ці ня могуць уцякаць ад сваей зямелькі і сваей сямы. Паны паслы Грамады паедуць у першай клясе ў Гданьск, адтуль проста да Менску, на гатовыя камісарскія высокія становішчы. Агэнты паўцякаюць проста заграніцу... А сяляне—на Лукішкі, у Горадзенскі, Наваградзкі, Слонімскі вастрогі...

Дык сяляне! Ці-ж не даволі ўжо ашуканства і зьдзеку над Вамі бальшавіцкай Грамады? Гдзе ж іх зямля, школа, самаўрад, палёгкі, перанясеньне падаткаў на паноў? Гдзе ж іх ідэйнасьць і адданьне народнай справе, калі яны пры першым жа выпадку ўцякаюць? Ці гэтак павінны рабіць праўдзівыя рэвалюцыянэры. Праўдзівыя рэвалюцыянэры павінны быць разам з народам заўсёды А то правадыру тысяча злотых пэнсіі, і на ўсякі выпадак... Гданьск. А сялянам—голад, невынасімыя варункі жыцьця, рэвалюцыйная дзейнасьць і... турма, а з ёю разарэньне і пагібель. Грамадзяне! праўда, цяжка сяньня Беларусам. Абецаныя рэформы ўсё зацягваюцца. Няма падзелу зямлі, няма роднай школы, няма правідловага самаўраду, непасільна цяжкія падаткі. **За ўсё гэта трэба змагацца.** Але ня тым шляхам, які паказвае Грамада. Бо гэтым шляхам можна толькі пагубіць усю справу і пагоршыць і гэтак цяжкую долю Беларускага Народу. Дык **ганіце вон ад сябе Грамаду і яе платных, нанятых за бальшавіцкія грошы, агэнтаў.** А тых сваіх вясковых адзінак, маладых хлапцоў і ашуканых сялян прымусьце **зараз жа зьліквідаваць усе гурткі Грамады** Бо ведайце, што за некалькі гарачых галоў, можа пацярпець уся вёска. Сяляне! недапушчайце да вашых вёсак новай бяды, новага гора. Аб гэтым папераджае Вас у другі **і АПОШНІ** раз Вашая Нацыянальная Рада.

**Беларуская Нацыянальная Рада.**

Вільня, 2-га лістапада 1926 года.

---

не заперэчыў, бо гэта ёсьць праўда, адазваўшыся на мяне звычайнай лаянкай, якая характэрызуе яго этычны багаж, падаўшы адначасова абсолютную ерунду і нябыліцы ў сувязі з маімі адносінамі з пакойным Барысам Савінкавым. Сваіх адносінаў да Савінкава я ня ўкрываў і ня лічу патрэбным укрываць, аб чым у леташнім годзе даў вычэрпываючы адказ у газэце „Słowo“. Прыпомню толькі, што я яшчэ тагды пісаў, што дагавор чыста баявога антыбальшавіцкага зьместу між мною, як прадстаўніком незалежнай беларускай арганізацыі і Савінкавым, *быў падпісаны мною асабіста.* Аб гэтым Міткевічу ня было ведама з прычынаў зусім зразумелых, але гэта кожную хвілю могуць сцьвердзіць гэнэрал Балаховіч і П. Аляксюк. Ні ў якую палеміку з угалоўшчыкамі, як Міткевіч уступаць ня думаў і не манюся. А за ілжу і брахню аб абсолютна *ня меўшым мейсца* факце, нібыта майго не разрахунку ў рэстаране Янкоўскага, за іншую ілжу і за абразу ў друку—адначасова з гэтым падаю заяву п. Пракурору аб пацягненьні Міткевіча да судовай адказнасьці. Дзіўлюся рэдакцыі „Сял. Нівы“, якая гасьцінна дае мейсца на старонках сваей газэты ілжы і бруковай лаянцы чалавека крымінальна скампрамітаванага, і акурат побач пісьма гэтак паважанага дзеяча і беларускага патрыёты, як кс. Гадлеўскі.

З пашанай *А. Паўлюкевіч.*

Вільня, 10—XI—1926 г.

---

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

*Ул. Гарбун.* — Па ўсіх пададзеных адрэсох газэту высылаем.

*Рас. Загр. Гістарычны Архіў* — патрэбныя №№ дасылаем.

*Унівэрсыт. Бібліятэка ў Львове* — № 24 дасылаем.

*Янцэлевіч Антон* — газэту Вам высылаем

*Дурэйко Янка, Цяліца Максім. Юрэвіч Базыль, Гутта Аляксандар, Пятровіч Аляксандар, Сёмуха Мікола*— пробныя №№ „Беларускаго Слова“ высылаем.

*Зіонтэк Мар'ян* — Вам высылаем 4 экз.

*Барысэвіч Сьцяпан* — 2 зл. 50 гр атрымана.

## Юрыдычныя парады.

**Падп. Т. Ю-ку.** *Запытаньне:*

Бацька мой. а пасьля я з братам улададаем і карыстаемся $7^1/_2$ дзес. зямлі надзельнай брата бацькі, які выехаў яшчэ ў 1907 г. у Пецярбург на заробкі. Ад гэтага часу ён не прыежджаў дамоў і наагул не цікавіўся зямлёй. Што з ім і яго сямьёй ня ведама. Есьць старыя лісты, у якіх ён некалі пісаў, што дароўвае зямлю майму бацьцы. Цяпер гетую зямлю хоча адабраць сын другога брата бацькі, які мае сваю зямлю. Ці можа ён адабраць і як бараніцца?

*Адказ*: Як відаць з вашага пісьма і бацька і вы карысталіся зямлёй як сваёй уласнасьцяй, зусім незалежна і бязспрэчна. Дзеля гэтага вы набылі права на гэтую зямлю па даўнасьці. Адабраць гэтую зямлю ніхто ад вас ня можа. Але калі ёсьць аматары — дык падайце ў Акружный Суд просьбу аб прызнаньні Судом за вамі права на гэтую зямлю па даўнасьці.

**Падп. С. Н-ну** *Запытаньне*:

Бацька запісаў мне тэстамантам усю сваю зямлю і гаспадарку. Сам ён цяперака ўжо ня ўмешваецца ў гаспадарку саўсім, уладаю ўсім я. Тымчасам да мяне пачынае чапіцца другі мой брат — які жыве ў разьдзеле ўжо 22 годы. Бацька сам выдзяліў яго і даў $^1/_4$ часьць зямлі і інш· Сёлета брат самавольна загараў кавалак папару і засеяў жытам.

Што рабіць і ці можа брат зламаць тэстамант?

*Адказ*: Тэстамант пакуль жыве той, хто яго зрабіў, г. зн. у данным, выпадку вашага бацькі — ніякай сілы ня мае і на аснове яго толькі вы ніякіх правоў на зямлю і ні на што іншае — не маеце. Бацька хоць сам і не працуе і не распараджаецца — зьяўляецца ўласьнікам зямлі. Дзеля гэтага ня вы ад свайго імяні. а толькі бацька ці вы але па яго даверанасьці можаце бараніца ад нарушыцеляў уладаньня. У данным выпадку бацька, (ці вы ад яго імяні) павінны падаць да Міравога Судзьзі позву ад вазстанаўленьнарушаннага ўладаньня.

**Падп. П. На—чу.** *Запыт.* Яшчэ ад дзеда мой бацька, а потым я, трымаем у арэндзе ад пана 20 дзес. зямлі. Цяперака пан нас гоніць вон і падаў у суд аб высяленьні. Усе будынкі — нашыя. Што рабіць?

*Адказ*: На моцы закону з дня 20-га чэрвеня 1924 г. аб выкупе зямель прэз б. чыншоўнікаў, б. вольных людзей і доўгалетніх арэндатараў, (Dz. Ust. R P. Nr. 63 z dn. 21 lipca 1924 г. pozycja 617) — вы можаце гэтую зямлю выкупіць. Трэба дзеля гэтага: 1) даказаць што рэндавалі без перарыву ад часу да 1 жніўня 1914 г.; 2) пабудаваліся на гэтай зямлі; 3) аселі на падставе кантракту на 6 гадоў; 4) акуратна плацілі арэнцу 5) маеце абыватэльства польскае і не абвінавачываецеся ў варожасьці да Польскага Гаспадарства і 6) не маеце сваей ўласнай зямлі альбо калі і маеце, дык столькі, што яе абшар з абшарам зямлі, якую арэндуеце не перавышае разам 40 дзес. Калі ўсе гэтыя варункі маюцца — трэба падаць просьбу да „Komisji uwłaszczeniowej“ вашага павету, аб прызнаньні за вамі права на выкуп. Прасіце, каб выдалі вам пасьведчаньне прадстаўце ў суд, дзе йдзе справа аб высяленьні вас просячы суд спыніць справу аж да сканчэньня справы аб выкупе. Радзім вам зьвярнуцца па гэтай справе да добрага адваката, каб не папсаваць справы.

**Чытачу Г. С—ку.** Пасьля сьмерці маткі у 1910 годзе) бацька мой сайшоўся з аднэй удавой і мей ад яе дзяцей (родзіліся у часе вайны дзяўчына і сын). Запісаны яны на імя ўдавы маткі. Бацька з ёй разышоўся у 1922 годзе. Яна падала ў суд аб прапітаньні Суд прысудзіў дзяцям і ёй ардынарыю Бацька памёр у трауні г. году. Ці мае правы ўдава атрымоўваць ардынарыю ад мяне?

*Адказ*: Абавязак плаціць ардынарыю, як прапітаньне на незаконных дзяцей, — абавязак асабісты, і канчаецца са сьмерцяй абавязанага Насьледнікі — законныя дзеці не адказываюць па такіх абавязаньнях. Значыцца фармальна — ўдава ня мае права спаганяць з вас ардынарыю.

**Чытачу Я. Бо—ку.** *Запытаньне.* Ці мае правы бязьдзетная удава-мачыха на зямлю і, наагул, маемасьць памёршага бацькі і на якую часьць? Ці можа яна гэтыя правы перадаць каму іншаму?

*Адказ*: Удава мае права на $^1/_7$ часьць нярухомасьці (зямля) і $^1/_4$ часьць рухомасьці Сваe правы ўдава можа перадаць каму захоча





Адказны Рэд. Т. Вернікоўскі. Друк. Новочэсна Вільня Біскупья 12. Выдав. Бел. Нацыянальная Рада: